*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*




# Наша слова

№ 43(53) • 11—17 снежня 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)


## Поступ тыдня

ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ, УКРАІНАЙ І РАСІЯЙ АБ СТВАРЭННІ САДРУЖНАСЦІ НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЗЯРЖАЎ (СНД). ГЭТА АЗНАЧАЕ, ШТО СССР ЯК СУБ'ЕКТ МІЖНАРОДНАГА ПРАВА ПЕРАСТАЕ ІСНАВАЦЬ. ДА УСТУПЛЕННЯ Ў САЮЗ ТРОХ АДКРЫТЫЯ ДЗВЕРЫ ЛЮБОЙ ІНШАЙ ДЗЯРЖАВЕ, УКЛЮЧАЮЧЫ І ТЫЯ, ЯКІЯ НЕ ЎВАХОДЗІЛІ РАНЕЙ У СССР. СТАЛІЦАЙ НОВАГА САЮЗА ВЫБРАНЫ МЕНСК.

*УЧОРА Ў МЕНСКУ АДНАВІЛА РАБОТУ НЕЧАРГОВАЯ ВОСЬМАЯ СЕСІЯ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА, ПАРАДАК ДНЯ ЯКОЙ БЫЎ ТЫДЗЕНЬ НАЗАД ДАПОЎНЕНЫ НОВЫМ ПУНКТАМ: «АБ ПРАЕКЦЕ ДАГАВОРА АБ САЮЗЕ СУВЕРЭННЫХ ДЗЯРЖАЎ». АДНАК ПАДЗЕІ РАЗВІВАЮЦЦА ТАК ХУТКА, ШТО І ГЭТАЕ ДАПАЎНЕННЕ ДАВОДЗІЦЦА МЯНЯЦЬ...*

У СУВЯЗІ З ПАДПІСАННЕМ пагаднення трох славянскіх рэспублік М. С. Гарбачоў аб'явіў аб неабходнасці склікання нечарговага з'езда народных дэпутатаў краіны і правядзення плебісцыту.

*У МАСКВУ З РАБОЧЫМ візітам 15 снежня прыедзе дзяржсакратар ЗША Джэймс Бейкер. Мяркуецца, што ён наведае таксама Беларусь з тым, каб дамовіцца аб канцэнтрацыі ўсёй ядзернай зброі ў межах адной Расіі.*

ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ АБ ГАНДЛЁВА-ЭКАНАМІЧНЫМ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І РАСІЯЙ.

*ПРАФСАЮЗНЫ АКТЫЎ І ПРАДСТАЎНІКІ ЗАБАСТОВАЧНАГА РУХУ ВА ЎСТАНОВАХ І АРГАНІЗАЦЫЯХ НАРОДНАЙ АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ Ў СУВЯЗІ З ЛІБЕРАЛІЗАЦЫЯЙ ЦЭН ПРЫГРАЗІЛІ ЗАБАСТОЎКАЙ, КАЛІ НЕ БУДУЦЬ ВЫКАНАНЫ ІХ ПАТРАБАВАННІ, АБМЕРКАВАНЫЯ НА НЯДАЎНЯЙ НАРАДЗЕ.*

ВЫДАТНІЦЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ



НА ЗДЫМКУ: сёстры Вольга і Марына Дзік — вучаніцы 11 і 10 класаў сярэдняй школы № 150 г. Менска. Адзнакі па беларускай мове і літаратуры ў дзяўчынак толькі выдатныя. Яны ўдзельнічалі ў раённай і гарадской алімпіядах па беларускай мове. Фота М. ХАМЦА.


*Вярнуць мове нацыянальнае аблічча* Стар. 2

*Сакрэты запаветнага куфра* Стар. 3


# ВЕЧНА ЖЫВЫ ПАЭТ

## *Урачыста адзначана 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча*

***«Максім Багдановіч марыў, што беларуская культура панясе нарэшце свой дар усяму свету. Час гэты настаў. Мы з паклонам перадаём людству свае духоўныя набыткі — і сярод іх чыстую Макімаву песню. Бярыце — яна ваша».***

***(З выступлення Г. Бураўкіна на ўрачыстым вечары ў бібліятэцы ААН).***

Днямі прыехаў з Нью-Йорка ў Менск наш суайчыннік, аўтар кніг пра Максіма Багдановіча Леанід Зубараў. Ён расказаў: 4 лістапада ў актавай зале бібліятэкі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны стогадоваму юбілею М. Багдановіча. На ім прысутнічалі дыпламатычныя місіі ўсіх краін свету, афіцыйныя прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікі беларускага замежжа: галоўны рэдактар газеты «Беларус» Янка Запруднік, выдавец часопіса «Полацак» Міхась Белямук з рэдактарам Святланай Белай, літаратуразнаўцы Вітаўт і Зора Кіпелі, вядомы спявак Данчык са спадарыняй Юліяй і яе маці з роду Луцкевічаў, якую ў маленстве насіў на руках сам Янка Купала, іншыя прадстаўнікі беларускай эміграцкай культуры.

З прывітальным словам да прысутных звярнуўся міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка. Эмацыянальным, яркім было «Слова паэта аб паэце» старшыні беларускай місіі пры ААН Генадзя Бураўкіна. Надзвычайны поспех на святочным канцэрце мелі «Песняры». На словы М. Багдановіча ансамбль выканаў песні «Вераніка» (музыка Ігара Лучанка), «Ой чаму я стаў паэтам» і «Ціхі вечар: знікнула спякота» (музыка Уладзіміра Мулявіна).

Леанід Зубараў — адзін з тых, хто і ў эміграцыі працягвае «працаваць» на беларускую культуру і літаратуру. У перакладзе на англійскую мову выходзіць яго кніга «Максім Багдановіч»; 2 лістапада г. г. у самай буйнай рускамоўнай газеце Захаду «Новое русское слово» пісьменнік надрукаваў свае пераклады твораў Багдановіча «Пагоня», «Зорка Венера», «Слуцкія ткачыхі», «Эміграцкая песня». У канцы жніўня ў раёне пражывання рускіх эмігрантаў г. Нью-Йорка Леанід Іосіфавіч правёў пасяджэнне аматараў рускай паэзіі, на якім выступіў з дакладам: «Максім Багдановіч. 100-годдзе з дня нараджэння». Эмігранты з Беларусі прачыталі вершы паэта, выканалі песні на яго словы.

1991 год стаў для гісторыі культурнага жыцця Беларусі годам Багдановіча. Да 100-годдзя паэта ў рэспубліцы і далёка за яе межамі праходзілі святы паэзіі, канферэнцыі, дыспуты. Выдавецтвы выпусцілі памятныя плакаты, эмблемы, кнігі, прысвечаныя творчасці М. Багдановіча, а таксама творчую спадчыну паэта.

Вялікай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі стала адкрыццё філіі музея Багдановіча «Беларуская хатка». Яшчэ вясной з нагоды 100-гадовага юбілею з дня нараджэння Максіма Багдановіча з мэтай далучэння моладзі да яго творчасці і паглыбленага вывучэння паэтычнай спадчыны Саюз пісьменнікаў Беларусі, Менскае гарадское аддзяленне Беларускага фонду культуры, Упраўленне культуры Менгарвыканкама і газета «Літаратура і мастацтва» абвясцілі гарадскі адкрыты конкурс на лепшы паэтычны твор, прысвечаны творчасці Багдановіча. Конкурс праходзіў пад назвай «Песняру...». 3 снежня ў Доме літаратара адбылася выніковая вечарына гэтага конкурсу, дзе прынялі ўдзел паэты з Менска і Менскага раёна ва ўзросце да 30 гадоў.

Пераможцамі конкурсу сталі: Алесь Палынскі (першая прэмія), Людміла Рублеўская і Эдуард Акулін (дзве другія прэміі), Сяржук Мінскевіч і Ірына Шахоцька (дзве трэція прэміі). Тры заахвочвальныя прэміі атрымалі Андрэй Маленчыц, Таццяна Лапцёнак і Валерый Максімовіч. Спецыяльным прызам — мініяцюрнай кніжкай «Мае песні» Максіма Багдановіча быў узнагароджаны сямігадовы Алёша Мінін, які таксама прыняў удзел у конкурсе

На вечарыне бралі ўдзел барды Ігар Добры, Алесь Камоцкі, Валерый Пазнякевіч, Уладзімір Клімовіч.

Ва ўсіх школах рэспублікі прайшоў навучальны тыдзень, прысвечаны жыццю і творчасці Максіма Багдановіча.

9 снежня ў дзень нараджэння паэта ў Менску ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета адбылася заключная святочная вечарына.

І. КРЭНЬ, В. ШНІП.

## Музей на Бацькаўшчыне

*8 снежня ў Траецкім прадмесці адкрыўся Літаратурны музей Максіма Багдановіча. Прыхільнікам яго таленту давялося вельмі доўга чакаць гэтага дня. У цяжкіх умовах вялася карпатлівая праца па стварэнні музея. Немалую дапамогу аказалі паэтавы сваякі. Яны перадалі сюды шэраг экспанатаў, асабістых рэчаў, пісьмаў М. Багдановіча.*

*Ва ўрачыстым адкрыцці бралі ўдзел міністр культуры Рэспублікі Беларусь Я. Вайтовіч, старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н. Гілевіч, старэйшы даследчык творчасці паэта Н. Ватацы, старшыня Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў, аўтар праекта афармлення музея мастак Э. Агуновіч, сваякі паэта, у тым ліку У. Галаван з Масквы, У. Кузняцоў з Яраслаўля, пісьменнікі, літаратуразнаўцы, шматлікая грамадскасць. На адкрыццё музея-храма М. Багдановіча ў сталіцы прыехалі госці з Беластока, Ніжняга Ноўгарада, Ялты, Рыгі, Краснадара. У час свята ў дар музею былі перададзены каштоўныя экспанаты, 37 пісьмаў бацькі паэта.*

*Пасля ўрачыстага адкрыцця музей прыняў першых наведвальнікаў. Экскурсію правodзіў дырэктар музея А. Бяляцкі.*

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*Але!*

## Закон пачынае дзейнічаць

Выйшаў новы Закон — аб адукацыі. У прэсе вакол яго не распачаліся адразу бурныя дэбаты. У парламенце абмеркаванне праекта таксама прайшло, на здзіўленне, мірна. Ніякіх спрэчак. Няўжо ў адукацыі няма ніякіх праблем? І рэформа, над якой б'ёмся каторы год, рушыла ўперад?

І што дзіўна. Закон прыняты, а ў розныя інстанцыі ідуць скаргі — дзяцей прымушаюць вучыць беларускую мову. У газетах вядуцца дыскусіі — ці трэба пашыраць ужыванне беларускай мовы? І дыскутуюць разам з усімі самі заканадаўцы, беларускія парламентарыі.

На пісьмо бацькоў пра вывучэнне мовы ў школе нядаўна адказваў праз «Настаўніцкую газету» старшыня той камісіі, што рыхтавала Закон аб адукацыі, Ніл Гілевіч. І аргумент яго просты: прыняты Закон, трэба яго выконваць. А ў Законе, у артыкуле 6, запісана: «Беларуская мова з'яўляецца асноўнай мовай выхавання і навучання ў дзіцячых дашкольных і навучальных установах.

Вывучэнне беларускай, рускай і адной з замежных моў з'яўляецца абавязковым ва ўсіх навучальных установах Рэспублікі Беларусь».

Здзіўляюць самі пытанні, скаргі бацькоў. Яшчэ ў даваенныя гады Максім Гарэцкі пісаў пра настаўніка, які ў старой, дарэвалюцыйнай школе за кожнае слова, сказанае школьнікам пабеларуску, біў лінейкай. А вось і нядаўна ў рэдакцыю прынёс заметку адзін з працаўнікоў Менскага аўтазавода, дзе ўспамінае: у школе ён заўсёды замест рускага «и» пісаў беларускае «і», за што настаўнік пастаянна ставіў яму двойку. Хоць сам прадмет аўтар пісьма ведаў добра. Усё гэта лічылася нармальным, не выклікала ні ў кога пратэсту.

А як толькі пачалі пашыраць на практыцы роднае слова, так і пачаліся дыскусіі. Хоць пра самі законы — аб мове, аб адукацыі — ніхто не спрачаецца. Чаму? Ці не таму, што ў нас глыбока засела двурушніцтва. Пра нацыянальнае самавызначэнне і раней пісалася ў законах многа прыгожых слоў. «...Аж да аддзялення». А вось мэтазгоднасць на практыцы вызначалася асобна. Кропкі над «і» ставіліся дырэктывай.

Вось і сёння. Як можна спрачацца з тым, што агульнапрынята! Патрабаванні закону — «законныя». А вось на практыцы — не, не ды і ўзнікае жаданне павярнуць па-старому. Хоць самі скаргі сведчаць: новы закон пачынае дзейнічаць і ў жыцці.

А. С.

## Зноў вырашаць за мяне?

*Шаноўныя спадары, арганізатары конкурсу на стварэнне новага нацыянальнага гімна! Звяртаюся да вас з нязгодаю адносна формы арганізацыі конкурсу. Я разумею так, што нацыянальны гімн — гэта той спеў, які абуджае патрыятычныя пачуцці, які спяваецца кожным грамадзянінам у адпаведных выпадках.*

*Хто ж будзе вырашаць, якая мелодыя і якія словы абудзяць мае патрыятычныя пачуцці? Спадары з камісіі? Ізноў нехта вырашыць за мяне, што мне патрэбна? Дзякуй, гэта ўжо мелі.*

*Я прапаную, каб рэгулярна ў адпаведны час па радыё і па тэлебачанні хаця б з дапамогаю фартэпіяна і голасу гучалі конкурсныя прапановы, што адбярэ журы. Дазвольце ж і людзям прычыніцца да гэтае надзвычай важнае справы, якая закранае кожнага з нас. Зразумела, што вырашальнае слова — за прафесіяналамі, але думку людзей, для каго ствараецца гімн, таксама нельга ігнараваць. Інакш такое стаўленне ўспрымаецца як знявага.*

*Вельмі прашу, шаноўныя спадары, прыслухацца да маёй прапановы.*

*З найлепшымі пажаданнямі — сп. Ірына* **ЗВАРЫКА.**

*З рэдакцыйнай пошты*

## Роздум напярэдадні дэмабілізацыі

Вось канчаецца тэрмін маёй службы ў войску. Шмат рознага пабачыў за гэты час, шмат зразумеў, аднак адно пытанне ўсё не знаходзіць адказу.

Чаму ўвесь тэрмін (за 2 гады мы, мабыць, пуд солі разам з'елі) я размаўляў на беларускай мове толькі з «хахлом», маім сябрам з Чарнігава? Ён мяне разумеў, я разумеў яго мову. Ён чытаў мае беларускія кнігі, я — яго ўкраінскія. І ўсё гэтае пры тым, што амаль палова роты ў нас — беларусы.

Ва ўсім свеце цяга да славянскіх моў. Нават ў іншых краінах ёсць лінгвісты, якія цікавяцца нашаю моваю. А ў той жа час у нас родная мова выкінута з грамадскага і таму з сямейнага ўжытку.

Ці не дзіва, што чалавек, які піша ў графе нацыянальнасць «белорус», кажа, што беларуская мова патрэбна толькі пісьменнікам і больш нікому.

Памятаю, яшчэ да маёй службы ў войску, у «Знамени юности» надрукавалі ліст, дзе нейкі хлопец кажа: «Я ненавижу эту свою «родную мову», «меня просто бесит, когда в моей речи попадаются белорусские слова»!

Як не горка мне гэта казаць, але ніхто са знаёмых іншых нацыянальнасцей, акрамя «бульбашоў», не пытаў у мяне, навошта мне беларуская мова...

...Проці цячэння вады
Зможа толькі жывое паплыць.
М. БАГДАНОВІЧ.

Можна ў нечым не згаджацца з БНФ, БСДГ, «талакоўцамі» і інш., але пад стаячы камень вада не цячэ. А якое ў нас становішча з выкладаннем беларускай мовы? Чаму мне, беларусу, цяжка на ёй размаўляць? Дзе, у якой незалежнай свабоднай краіне дзеці пачынаюць вывучаць родную мову не з першага, а ў лепшым выпадку з другога класа?

Асабістая справа кожнага, на якой мове размаўляць, якую літаратуру чытаць. Але мне не даспадобы, каб беларуская мова ператваралася ў такую, як латынь. Тым больш, што навукоўцам хопіць і латыні.

...Вось зараз у мяне спыталі, чаму я падпісаў канверт не «па-савецку». Як можна зразумець, трэба было падпісаць па-расійску.

Тады я спытаў, чаму нікога не цікавіць, калі я ў ЗША і ў Канаду да сябра падпісваю канверт не «па-савецку». Я ўбачыў на тварах таго, хто пытаў, здзіўленне. Яшчэ да многіх ніяк «не даходзіць»: беларусы — таксама народ са сваім прызначэннем на зямлі, са сваёй мовай і культурай.

Паўлюк БЫКОЎСКІ.

## Выбранецкая інфармацыйная служба паведамляе

На пачатку лістапада ў Навагрудку быў пастаўлены помнік Адаму Міцкевічу, выкананы скульптарам Валяр'янам Янушкевічам яшчэ ў 1988 годзе, якраз на 190-я ўгодкі паэта. Да гэтага часу гарадскія ўлады ніяк не маглі знайсці месца для ўстаноўкі помніка, ён валяўся ў кацельнай, а то і проста на вуліцы. Цяпер жа помнік заняў годнае месца на Замкавай гары.

* * *

7 снежня з Навагрудка ў Варшаву ад'едзе аўтамабіль, на якім вывезуць з Фарнага касцёла (Фары Вітальдовай) абраз Маткі Боскай Навагрудскай. У Польшчы ён будзе адрэстаўраваны. Яго аднаўленнем будзе займацца цэлая група мастакоў-рэстаўратараў пад кіраўніцтвам прафесара Тадэвуша Поляка.

Цікавая гісторыя гэтага абраза гаворыць, што хворага трохгадовага Адама Міцкевіча ягоная маці прыносіла да ліка Маткі Боскай, пасля чаго хлопчык паправіўся. Але гэта спрэчнае пытанне, бо Міцкевіч у паэме «Пан Тадэвуш» узгадвае Матку Боскую Замкавую. І калі лагічна ўдумацца ў гісторыю, дык замкавы абраз павінен быць праслаўлены, і захоўваўся ён пасля ў касцёле святых Барыса і Глеба як уніяцкая святыня. У нейкі час людзі пачалі атаясамліваць абраз Маткі Боскай з Фары Вітальдовай з цудадзейным абразам, прыгаданым Міцкевічам. Але ад гэтага касцёльны абраз не губляе сваіх вартасцей, бо гэта помнік жывапісу канца XVII — пачатку XVIII стагоддзяў.

* * *

У верасні ў навагрудскай капліцы Святога Міхаіла была ўстаноўлена памятная дошка ў гонар польскіх легіянераў, якія загінулі ў барацьбе з бальшавікамі ў 1919—1920 гадах. Пра гэтую падзею не было паведамлення ні ў рэспубліканскай, ні ў мясцовай прэсе.

* * *

З Навагрудка паведамляюць, што праведзена эксгумацыя магілы манашак Ордэна назарытанак, расстраляных немцамі ў 1943 годзе ў шасці кіламетрах ад горада. У 1945 годзе іхнія астанкі былі перанесены тутэйшым ксяндзом да сцен касцёла. Цяпер яны перазахаваны ў саркафаг у касцёле, дзе пастаўлена памятная дошка. На эксгумацыю прыязджала камісія з Ватыкана. Прысутнічалі арцыбіскуп Сьвёнтак, гродзенскі біскуп Кашкірэвіч і генеральная матка манаскага Ордэна назарытанак.

* * *

15 снежня, у нядзелю, у прадстаўніцтве Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у Маскве, што знаходзіцца па вуліцы Багдана Хмяльніцкага, 17, адбудзецца ўрачыстасць, прысвечаная 100-годдзю Максіма Багдановіча. Пачатак а 11-й гадзіне.

* * *

23 лістапада адбылася канферэнцыя гродзенскай філіі БНФ. Разглядалася сацыяльна-эканамічнае, палітычнае і грамадскае становішча на Беларусі і задачы Народнага Фронту як палітычнай арганізацыі на гэты час. У канферэнцыі бралі ўдзел: старшыня БНФ спадар З. Пазьняк, ягоны намеснік спадар Ю. Хадыка, дэпутат Вярхоўнага Савета спадарыня Г. Сямдзянава, прадстаўнікі суполак БНФ з Дзятлава, Мастоў, Навагрудка. На канферэнцыі быў прыняты шэраг рэзалюцый і Зварот да жыхароў горада.

А днём раней у Гродзенскім Палацы культуры хімікаў адбылася сустрэча выбаршчыкаў з дэпутатамі Вярхоўнага Савета ад апазіцыі БНФ. Выступалі і адказвалі на пытанні: Сямдзянава, Пазьняк, Маркевіч, Аксаміт. Браў удзел у гутары і сп. Хадыка. Прысутнічала каля 500 чалавек, шмат людзей стаяла, многія не змясціліся ў зале. Сустрэча была вельмі цікавай і зацягнулася амаль да поўначы.

* * *

23 і 24 лістапада маладзёжная арганізацыя «Выбранецкія шыхты» правяла пікеты ў Менску з нагоды чарговых угодкаў Слуцкага паўстання супраць бальшавікоў. Раздавалася газета «Свабода» з артыкулам Вітаўта Кіпеля «Слуцкая вайна», што прысвечаны паўстанню.

**Падрыхтавалі:
Таццяна ЦАРУК
і Андрусь ВАШКЕВІЧ.**

**Званіце ў Выбранецкую інфармацыйную службу (43-59-36, Андрусь).**

# *У камісіі па ўдасканаленні правапісу*

*Адбылося чарговае пасяджэнне камісіі па ўдасканаленні правапісу беларускай мовы*

**Ва ўступным слове старшыня камісіі Генадзь ЦЫХУН звярнуў увагу слухачоў на тое, што галоўнай прычынай, якая абумоўлівае магчымыя будучыя змены ў правапісе, у пастанове II з'езда ТБМ адзначана наступнае: «неадкладнае вяртанне беларускай літаратурнай мове яе нацыянальнага аблічча». Увогуле існуюць два аспекты, якія могуць прыводзіць да зменаў правапісу: унутрымоўны (функцыянальны, прагматычны) і пазамоўны, які ў нашай сітуацыі ўвасабляецца як адраджэнцкі. Абодва аспекты важныя, і ніводзін з іх не можа ігнаравацца, але ў нас, відаць, пераважае другі, што і адлюстравала пастанова II з'езда ТБМ па правапісу.**

**Старшыня камісіі спыніўся на разглядзе другога аспекта, які ў нас рэалізуецца праз імкненне вярнуцца да колішніх здабыткаў, да таго часу, калі правапісная думка развівалася натуральным шляхам. У сувязі з гэтым Г. Цыхун звярнуў увагу на зыходжанняў з правапіснай сістэмай аўтара «Беларускай граматыкі для школ». Параўнаем кваліфікацыю гэтага праекта В. Баркоўскім: «праект мы можам назваць толькі ўдакладненай зводкай таго, што мелася раней».**

**На думку Вінцука Вячоркі (часопіс «Спадчына») праект 1930 г. не з'яўляецца этапным. Сярод навукоўцаў, сяброў правапіснай камісіі Інбелкульта, выразна выдзяляліся 2 групы.**

**У адрозненне ад тэрыторыі Савецкай Беларусі, у Заходняй Беларусі тарашкевічава традыцыя развівалася і пасля 1933 года. Гэтае развіццё спынілася ў 1939 годзе, але зноў аднавілася пасля нямецкай акупацыі (гэтым разам на ўсёй беларускай тэрыторыі). У сувязі з перыядам акупацыі В. Вячорка адзначыў як «максімальна функцыянальны» правапіс Антона Лёсіка 1943 года. Пасля вайны вярнуўся правапіс 1933 года, а развіццё тарашкевіцы адбывалася на эміграцыі. Сёння рэальна іс- заходнебеларускіх вучоных і *падзяліў* беларусаў на «савецкіх» і «несавецкіх», на «камуністаў» і «некамуністаў», на «эмігрантаў» і «неэмігрантаў» і да т. п.**

**...Кансалідаваная, культурная нацыя мусіць мець агульны, дасканалы правапіс» («Чырвоная змена», 3 — 9 чэрвеня 1991 г.)**

**Параўнаем таксама ранейшую думку Г. Цыхуна: «Кампраміс паміж двума існуючымі правапісамі неабходны і магчымы, бо яны грунтуюцца на адных і тых жа прынцыпах» («Народная газета», 28 мая 1991 г).**

**Аляксандр ПАДЛУЖНЫ (Інстытут мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук) пацвердзіў, што ў параўнанні з акадэмічнай канферэнцыяй 1926 года ў праекце 1930 года ніякай асаблівай навіны не было. На думку прамоўцы, пры вырашэнні правапісных пытанняў перавагу трэба аддаць прагматычнаму аспекту. У сучаснай сітуацыі ніяк не варта рабіць якія-небудзь змены ў граматыцы. Асобныя**

**«Беларускі правапіс (праект)» (1930), як на магчымы выходны пункт дзейнасці камісіі. Гэты праект старшыня камісіі лічыць этапным у дзейнасці мовазнаўцаў 20-х гадоў, у ім не заўважаецца якой-небудзь спекуляцыйнасці, ціску знешніх фактараў, якія выразна «выпіралі» ў час правапісных абмеркаванняў 30-х гадоў. Пазбаўленымі спекуляцый Г. Цыхун лічыць таксама змены, прынятыя ў 1957 годзе.**

**Мы належым да традыцыі, у адпаведнасці з якой у правапісе праз пэўны час могуць адбывацца змены. Прынцып зменнасці ў беларускай мове заклаў Б. Тарашкевіч, які дапускаў кампрамісы, суіснаванне ў правапісе розных прынцыпаў. З іншага боку, ёсць мовы, носьбіты якіх заўсёды катэгарычна супраць любых зменаў у правапісе.**

**Як самастойную старшыня камісіі выдзеліў таксама праблему падрыхтоўкі грамадскай думкі. Дзеля гэтага трэба абавязкова актывізаваць дыскусію, але не толькі сярод навукоўцаў. Грамадства павінна быць падрыхтавана для прыняцця тых прапаноў, якія могуць паступіць.**

**У сувязі з вылучэннем Г. Цыхуном праекта 1930 года ў якасці пункта адліку ў дзейнасці камісіі Сяргей Запрудскі звярнуў увагу на тое, што такі падыход аб'ектыўна можа азначаць «вяртанне да Тарашкевіча», бо праект 1930 года не мае значных ра-**

**нуе варыянт беларускай літаратурнай мовы, і ён цалкам можа разглядацца як прыдатная аснова для дзейнасці камісіі. Гэты правапісны варыянт стабільны, калі не браць пад увагу «дысыдэнцкі» праект Я. Станкевіча.**

**Г. ЦЫХУН заўважыў, што правапіс эміграцыі ўяўляе сабой асобную праблему. Мы не можам ігнараваць думку эміграцыі, і было б добра, каб мы яе ведалі. Старшыня камісіі выказаў спадзяванне, што ў эміграцкім асяроддзі разумеюць ненармальнасць наяўнага падзелу паводле «правапісных прыкмет» і што эміграцыя разумее неабходнасць дасягнення згоды.**

**У сувязі з тэмай згоды і вытокаў расколу варта нагадаць наступны фрагмент з заявы ўдзельнікаў нарады «Пытанні рэформы беларускага правапісу», праведзенай у маі г. г. Таварыствам беларускай мовы Акадэміі навук:**

**«Тарашкевічаў правапіс меў шэраг недахопаў (і яны абмяркоўваліся мовазнаўцамі ў 20-х гадах), тым не менш ён задавальняў патрэбы грамадства ў агульнапрынятым правапісным кодэксе і *аб'ядноўваў* усіх беларусаў незалежна ад іх палітычных поглядаў, веравызнання, месца жыхарства і г. д.**

**Гэтай важнай кансалідоўнай функцыі не змог выканаць правапіс, уведзены ў 1933 годзе дзеля палітычнага моманту. Русіфікацыйны па сваёй сутнасці, ён выклікаў рэзкае непрыняцце**

**існуючыя правілы, якія выходзяць за межы «ўласна правапісу» і заходзяць у граматыку, надзвычай складаныя і заблытаныя (напрыклад, правапіс канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне). А. Падлужны адзначыў, што ў сучасным правапісе ў перадачы запазычаных уласных назваў пануе стыхія. Можна згадзіцца з тым, што трэба прасіць падтрымкі ў эміграцыі, але эмігранты павінны ўлічваць, што з 30-х гадоў яны адарваныя ад Беларусі, а тут мова развівалася. Прамоўца паведаміў, што ў Інстытуце мовазнаўства за аснову ўзяты правапісны звод 1959 года, але тут жа**

**заўважыў, што структурна ён, відавочна, з'яўляецца калькай з рускага ўзору.**

**Што да асімілятыўнай мяккасці, то чытаць з мяккімі знакамі добра, а пісаць — цяжка, бо многія гэтай мяккасці не чуюць. Правілы пажадана фармуляваць проста, а вось правіла пра асімілятыўную мяккасць немагчыма сфармуляваць проста. Калі казаць пра кампрамісныя падыходы, то, магчыма, гэтае пазначэнне мяккасці можна дапусціць пасля прыставак на зычны перад *е, ё, ю, я* (тыпу *зьезд, зьесці*). Іншы падыход — не абазначаць асімілятыўную мяккасць нідзе.**

**Г. ЦЫХУН заўважыў, што ў правапісным зводзе 1959 года многа лішняга, такога, што не патрэбна нармалізаваць. Гэты звод скоўвае. Парушэннем традыцый беларускага мовазнаўства была жорсткая нармалізацыя ў марфалогіі. У тым, што ў граматыцы існуе варыянтнасць, нічога дрэннага няма. (Апошнюю думку падтрымалі, бадай, усе прысутныя).**

**Алесь ЯСКЕВІЧ (Інстытут літаратуры Беларускай Акадэміі навук) паставіў пытанне: ці ёсць у змякчэння рэальная сістэма? Паводле прамоўцы, раней ужывалася многа лішніх мяккіх знакаў. У сённяшняй надзвычай складанай палітычнай сітуацыі, калі існуе праблема захавання Беларусі, наўрад ці варта ісці на змены ў правапісе. II з'езд ТБМ узяў на сябе вялікую адказнасць, заклікаўшы рэфармаваць правапіс. Народ гэтых зменаў не прыме, не зразумее. Сёння трэба нейкія паўмеры, паступовасць. Мова эміграцыі — гэта «мова для душы», а не для штодзённага ўжытку. У нашай мове моцны прастамоўны пласт, і, калі пайсці ў напрамку да «еўрапеізацыі», як прапануе рыдакальная моладзь, то ці будуць гэтыя пласты спалучацца? А. Яскевіч спаслаўся на сведчанне пісьменніка У. Юрэвіча, паводле якога на Магілёўшчыне «Тарашкевіч не ўспрымаўся». Прамоўца няўхвальна выказаўся пра мову перакладу Яна Пятроўскага Евангеля паводле св. Яна, выдадзенага нядаўна 200-тысячным накладам Беларускім Харытатыўна-Адукацыйным Фондам — «уражанне такое, нібы на дыялекце».**

**Удзельнікі пасяджэння дамовіліся, што як мінімум на дадзеным этапе камісія абмяжуецца «ўласна правапісам» і не будзе ўмешвацца ў граматыку.**

**Сябры камісіі пазнаёміліся з праектамі анкет па праблемах правапісу, падрыхтаванымі Янкам Войнічам (Інстытут мовазнаўства) і С. Запрудскім. Іх абмеркаванне адбудзецца на наступным пасяджэнні. У якасці тэмы, якая будзе вынесена на агульную дыскусію, абрана асімілятыўная мяккасць.**

**Сяргей ЗАПРУДСКІ,
сакратар камісіі па
ўдасканаленні
правапісу.**

# З КУФРА МЯКОТАЎ

## *Малевічы — Мякоты — Валасовічы*

*«Малевіч — называў я яго ў жарт па прозвішчу яго бабкі з матчынага боку, бо па характэрных рысах твару і ён, і яго маці былі падобны да бабулі, далёка аднак рознячыся ад яе характарам, які быў у яе хваравіта няўраўнаважаны і надзвычай эксцэнтрычны».*

**(А. Я. Багдановіч «Матэрыялы да біяграфіі М. Багдановіча»).**

ПЕРШЫМ ЧАЛАВЕКАМ, які расказаў пра род Максіма па маці, быў Адам Ягоравіч Багдановіч. У яго «Матэрыялах...» ёсць падраздзельчык: «Маці Максіма і яе род». Цытую: «Маці Максіма называлася Марыя Апанасаўна, па бацьку Мякота, па маці, Таццяне Восіпаўне, — Малевіч. Здаецца, абодва роды папоўскія, па крайняй меры Таццяна Восіпаўна была папоўнай. Муж яе быў дробны чыноўнік (губернскі сакратар), служыў наглядчыкам Ігуменскай павятовай бальніцы. Ужо ў сталым узросце ажаніўся другім шлюбам на маладзенькай пападзянцы Таццяне Восіпаўне Малевіч 17-ці гадоў і меў ад яе 5 дзяцей: 4 дачкі і сына.

Цяжкая хвароба бацькі, які атрымліваў капейкі (25 рублёў на месяц), абрынула сям'ю ў бязвыходнае жабрацтва, і дзеці яшчэ да смерці бацькі былі адвезены ў Менск у дзіцячы прытулак (рог Петрапаўлаўскай і Падгорнай вуліц). Хлопчык хутка памёр у шпіталі, а дзяўчынкі заставаліся да 14 гадоў у прытулку. Умовы жыцця ў прытулку, вядома, былі дрэнныя: дрэннае харчаванне, густа населеныя спальні, усё гэта, вядома, падточвала здароўе.

Маці Максіма параўнаўча пашэнціла: як жвавае, багата адаронае здольнасцямі дзіця, з раскошнымі валасамі, яна звярнула на сябе ўвагу апякункі прытулка губернатаршы Пятровай, і тая ўзяла яе да сябе ў дом і пасылала вучыцца ў жаночае Аляксандраўскае вучылішча, а затым па яго заканчэнні, адправіла яе ў Пецярбург у жаночую настаўніцкую школу, уладкаваўшы на кватэру да сваіх сваякоў Пятровых...»

У 1965 годзе наладзіліся асабістыя сувязі даследчыкаў творчасці Максіма Багдановіча Ніны Ватацы і Алеся Бачылы з Ганнай Кіпрыянаўнай Валасовіч-Грaзновай, стрыечнай сястрой паэта, адзінай ужо на той час прадстаўніцай роду Малевічаў — Мякотаў — Валасовічаў, якая ўдакладніла і пашырыла сказанае ў свой час Адамам Ягоравічам пра род Максімавай маці.

У 1966 годзе Ганна Кіпрыянаўна апублікавала «Успаміны пра брата» («Полымя, № 12), якога памятала па жыцці ў Яраслаўлі. У публікацыі, акрамя Максіма, яна расказала пра цётку Стэфу (Сцепаніду Апанасаўну), стрыечнага брата Жэню, бабулю Таццяну Восіпаўну Малевіч-Мякоту. Як заўважыў Алесь Бачыла, Ганна Кіпрыянаўна хацела падкрэсліць, «што ў іх родзе былі таксама таленавітыя людзі».

На старонкі ўспамінаў Ганна Кіпрыянаўна вынесла і састарэлую крыўду на Адама Ягоравіча: «Маму вельмі ўразіла і пакрыўдзіла, што Адам Ягоравіч усё пісаў пра сваю радню, прыпісваў толькі ёй усе выключныя рысы. Не пацікавіўся даведацца аб радні з боку маці Максіма — Марыі Апанасаўны, сваёй першай жонкі. Ён лічыў, што з усіх сясцёр толькі Марылька была адароная. Але гэта не так, і калі такое яму здалося, то з-за таго, што ў ёй гэта было больш прыкметна, бо яна атрымала адукацыю. А між тым, у радні маці Максіма былі здольныя людзі. Цёця Стэфа мела чулую душу і светлы розум, яе лісты былі змястоўныя і прыгожыя. Яе сын Жэня быў высока адароны чалавек. Памёр ён на дваццаць шостым годзе жыцця ад сухот, памёр адзін, пахаваны ў Ялце, а дзе — ніхто не ведае. Цёця жыла каля Асіповіч, дзе працавала з мужам (Францам Антонавічам Секержыцкім — І. К.), потым пераехалі ў Ніжагародскую губерню і жылі каля Барміна...»

Асабліва цікава і падрабязна расказала Ганна Кіпрыянаўна пра сваю і Максімаву бабулю, якая з 1896 года жыла ў сям'і Кіпрыяна Валасовіча і Ганны Апанасаўны, — яе бацькоў. Спашлюся на дзве крыніцы: на кнігу А. Бачылы «Дарогамі Максіма Багдановіча» (Мн., 1983), пры напісанні якой быў выкарыстаны вусны расказ Ганны Кіпрыянаўны пра бабулю, і на аўтограф сястры паэта «Успаміны аб жыцці Таццяны Восіпаўны Мякоты», які захоўваецца ў Літаратурным музеі М. Багдановіча.

Таццяна Восіпаўна Малевіч (у замустве Мякота) нарадзілася прыблізна ў 1845 годзе на Палессі ў сям'і сельскага святара Восіпа Малевіча. З якой менавіта вёскі і мясцовасці яна паходзіла — невядома, аднак па таму, што добра гаварыла па-польску і па-беларуску, можна меркаваць, што жыла на тэрыторыі, населенай беларусамі і палякамі. Памятала Таццяна Восіпаўна прыгоннае права, нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863 года і знішчэнне уніяцтва. Засталося ў яе памяці, як «заганялі бізуном народ у праваслаўныя цэрквы», як прымушалі вучыць малітвы па-славянску, бо без ведання некаторых малітваў маладыя не маглі ўзяць шлюб. Памятала хваробу каўтун. Тады на вясковых парканах можна было ўбачыць шапкі валасоў, што «звіліся ў каўтун і аддзяліліся ад галавы». Быў такі праклён: «Каб твой розум у каўтун звіўся».

Сям'я ў айца Малевіча была вялікая — некалькі сыноў і дачок. Усе вучыліся: хлопцы ў духоўнай семінарыі, дзяўчаты ў хатніх настаўнікаў. Таня стала выдатнай рукадзельніцай: вышывала гладдзю і бісерам, вязала, ткала і прала. Прасці вельмі любіла, нават тады, калі ў гэтым не было патрэбы, — выпрадала самую тонкую нітку. Навука, здабытая ў бацькавай хаце, потым ёй вельмі прыдалося. Браты і сёстры жылі дружна, клапаціліся адно аб адным. Маці памерла рана, і малую Таню гадавалі і апекавалі старэшыя. Страта маці стала першым яе вялікім горам, зрабіла нервовай і запальчывай. Аднак жыццё прадаўжалася. Таня стала прыгожай, стройнай, з раскошнай касой дзяўчынай. Асабліва добра станавілася ў доме, калі сям'я падчас вакацый збіралася разам — не сціхалі тады рогат, жарты і песні. Падыходзілі з навакольных сядзіб сябры і сяброўкі, наладжваліся вечарынкі з музыкай і танцамі. У іх сям'і ўсе мелі добрыя галасы. Прыгожы голас быў і ў Тані. І спявала тады яна, можа, больш за ўсіх. Вельмі любіла песні: «У зоры, у зорачкі» і «Выхожу один я на дорогу». Іграла на гітары, танцавала. Любіла чытаць.

Але вось прыйшло першае гарачае каханне. Зазірнем у кнігу А. Бачылы і даведаемся, што адбылося далей: «Невядома, хто з двух закаханых быў таму віною, але неўзабаве Таццяна Восіпаўна пасварылася са сваім абраннікам — семінарыстам Рубяроўскім. Нейкі час абое, вытрымліваючы характар, не сустракаюцца. І трэба ж, каб менавіта ў гэты час да яе пасватаўся ўдавец Панас Іванавіч Мякота, чалавек намнога старэйшы за дзяўчыну, больш сталы і ўраўнаважаны. І, як бывае ў людзей запальчывых, Таццяна Восіпаўна Малевіч дае яму сваю згоду, хоць у глыбіні душы пасапраўднаму кахае толькі Рубяроўскага. Родзічы адчулі яе гарачнасць, спрабавалі адгаворваць ад паспешлівага рашэння, але нічога не памагло. Настойлівым адгаворваннем яны нібы падлівалі масла ў агонь. Нічога гэтага не ведаў сам Рубяроўскі і таму не мог паўплываць на рашэнне каханай.



Ганна Апанасаўна Валасовіч (Мякота), сястра маці паэта.



Аляксандра Апанасаўна Мякота, сястра маці паэта.

Больш за ўсіх перажываў бацька — сумленны сельскі святар, які на сваім вяку перабачыў нямала падобных трагедый, у памяці якога была свежай і свая рана — смерць жонкі. Калі настаў час благаслаўляць дачку, ён некалькі разоў браў ікону і ўсё ніяк не мог выканаць знаёмы рытуал: дрыжалі рукі і самі апускаліся долу.

І ўсё ж вянчанне адбылося. А вечарам, у самы разгар вяселля, з'явіўся Рубяроўскі. Позна перадалі яму вестку... Першай яго заўважыла старэйшая сястра Таццяны Восіпаўны. Яна тут жа адвяла ў бок маладую і, ведаючы яе характар, папярэдзіла:

— Глядзі, Танька: ранейшае ўжо скончана, ты цяпер павенчана і нічым не павінна паказаць, што ўсё яшчэ любіш яго.

Што тварылася тады ў душы маладой — ніхто не ведаў. Аднак... Яна падпарадкавалася — каб не сараміціць сябе і, галоўнае, бацьку, які так настойліва адгаворваў яе ад неабдуманага ўчынку. Толькі шмат пазней яна прызнаецца ў сваёй памылцы і, цяжка ўздыхаючы, скажа:

— Калі б Рубяроўскі прыехаў на некалькі гадзін раней, вяселле распалася б: я выйшла б замуж толькі за яго. Ні перад чым бы не спынілася».

Рубяроўскі таксама цяжка перажыў гэта здарэнне і не раз аб гэтым казаў.

Таццяна Восіпаўна не любіла расказваць пра сваё замуства. Яно не прынесла ёй шчасця, але і не было такім жабрацкім, як пісаў Адам Ягоравіч, бо старэйшая дачка Стэфа выхоўвалася ў прыватным пансіёне і вывучала нават французскую мову.

Апанас Іванавіч Мякота памёр у ноч на 5 студзеня 1879 года, пасля чаго сям'я і ўпала ў беднасць. Маці Ганны Кіпрыянаўны расказвала, што пасля смерці бацькі казённую кватэру ім давялося вызваліць і пайсці жыць на край Ігумена (цяпер г. Чэрвень) у напаўразбураную хаціну. Запамятаўся пусты, халодны пакой. Дзецям хацелася есці. А была зіма, на двары выла завіруха. Вечарам сядзелі без святла. Было страшна. Маці прыходзіла позна. Тады і пачала Таццяна Восіпаўна аддаваць дзяцей у прытулак па чарзе, калі дзіцяці спаўнялася сем гадкоў, — спярша Марыльку з Міхасём, затым Шуру і апошнюю — Анюту. Стэфа была на той час падлеткам і дзесьці служыла за хлеб, а пасля выйшла замуж.

Ганна Кіпрыянаўна пісала: «Апавяданне Марыі Апанасаўны «Напярэдадні каляд» мне вельмі нагадвае жыццё Таццяны Восіпаўны: «Не адзін раз у адчаі яна білася аб халодныя сцены ўбогай хаты, просячы ў Бога смерці, абы адно не чуць гэтага ляманту дзяцей аб кавалку хлеба, што надрывалі душу...» У гэтым сваім апавяданні Марыя Апанасаўна апісвала жыццё маці» («Успаміны аб жыцці Т. В. Мякоты»). Больш за дзесяць гадоў Таццяна Восіпаўна пражыла ў Менскай багадзельні. За гэты час памерлі Міхась і Марылька, а дочкі Шура і Анюта павыходзілі замуж. У сям'і наймалодшай дачкі знайшла бабуля нашага паэта для сябе і сваёй старасці прытулак. Памерла яна ў глыбокай старасці ў 1923 годзе, пахавана ва Уладзіміры.

Ганна Кіпрыянаўна нарадзілася ў Менску, але лёс наканаваў ёй пражыць жыццё ў Ніжнім Ноўгарадзе. Уся радня Марыі Апанасаўны і Адама Ягоравіча асядала там. Сустрэлася яна з родным горадам ажно ў 1965 годзе, ва ўзросце 68 гадоў. Прыехала сюды з стрыечнай пляменніцай Максіма па бацьку Наталляй Глебаўнай Кунцэвіч па запрашэнні Ніны Ватацы. 8 мая сваячкі паэта наведалі Інстытут літаратуры АН Беларусі. Сустрэча адбылася ў аддзеле рукапісаў і выданняў. Тады і папрасілі мы гасцей напісаць успаміны пра Багдановічаў — бацьку і сына. Адгукнулася на гэту просьбу Ганна Кіпрыянаўна ў пісьме (кастрычнік 1965 г.). Яе ліст — узор чалавечай тактоўнасці, шчырасці, дабрыні. Ён высвеціў Ганну Кіпрыянаўну як блізкага да Максіма чалавека:

**Ірына КРЭНЬ.**

***(Працяг у наступным нумары).***

14/VII 23 г.

Праз карэктарскі недагляд у кніжцы зроблена шмат друкарскіх абмылак. Не маючы вольнага мейсца папраўляем толькі адну у паэме „ВЭРОНІКА“ пасьля 5 штрофы трэба паставіць 9, 10 і 11 штрофу. Просім чытачоў заувважыць гэта.

ВЫДАВЕЦТВО.

Дорогому Ивану Антоновичу на память от сестры Максима
А. Валасович-Грязнова
4/VIII 1968 г.
г. Горький

Музей Максіма Багдановіча
5 VI. 85

Вокладка прыжыццёвага зборніка «Вянок» з дарчымі надпісамі А. Я. Багдановіча, Г. Валасовіч-Грaзновай, Я. Брыля.



Сям'я Таццяны Восіпаўны і Апанаса Іванавіча Мякотаў. На каленях у маці — Марылька.

# Час прыспешвае!

***Баранавіцкая рада ТБМ імя Францішка Скарыны стварае першы на Беларусі этнаграфічны музейны комплекс земляробства.***

Паводле задумы аўтараў там будзе адлюстравана развіццё старадаўняй матэрыяльнай культуры беларусаў.

Ужо адрамантаваны і аздабляецца будынак будучага музея, збіраюцца экспанаты. Але на рэстаўрацыю млына, кузні, сядзібных пабудоў, на завяршэнне ганчарнай майстэрні патрэбны немалыя грошы. Свае сродкі рада ўжо вычарпала. Апошнім часам мы з'яўляемся сведкамі пабудовы Гайнаўскага музея самаахвярнымі намаганнямі беларусаў усяго свету.

Звяртаемся з просьбай да ўсіх грамадзян Беларусі, да беларусаў усяго свету дапамагчы ажыццявіць задуму. Сродкі просім пералічваць на рахунак № 100700852 у Камінвестбанку г. Баранавічы ці на валютны рахунак ТБМ імя Ф. Скарыны ў г. Менску (700704 у Знешэканамбанку) з адзнакай — для музея.

Міхал БЕРНАТ.

# БОЛЬ ЧАРНОБЫЛЯ



Ізноў — Барталамееўка. Па афіцыйных справаздачах яе ўжо няма. У канцы лета ў гэтай вёсцы, якая вельмі пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС і даўно падлягае адсяленню, закрылі магазін. З 23 кастрычніка поўнасцю спынена падача электраэнергіі. Большасць дамоў апусцела. І ўсё ж дзе-нідзе ідзе жыццё. Ды ці жыццё гэта у такіх умовах?

На здымку: нямногія з тых жыхароў, хто застаўся ў вёсцы, збіраюцца разам, каб падзяліцца апошнімі навінамі, абмеркаваць свае справы.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА (БЕЛТА).

# Лякарня чараўніцы Потахі

**ПЯТРУШКА. У лекавых мэтах ужываюць карані і насенне. Напар у выглядзе чаю з каранёў пятрушкі п'юць у народзе ў розных дозах пры ўздуцці кішэчніка, пры ўсіх відах хвароб мочапалавых органаў, пры камянях мачавога пузыра, пры вадзянцы — як добры мачагонны сродак.**

**Ёсць сцверджанні, што калі доўга адсутнічае месячная кроў, то дапамагае адвар з насення пятрушкі з дабаўленнем травы руты. Бяруць 2 г насення пятрушкі і 1 г травы руты на 1,5 шклянкі вады, вараць 7—10 мінут. Глыткамі выпіваюць усё за дзень або па паўшклянкі 2 разы на дзень. Масла з насення пятрушкі (аптэчнае) ужываюць у дозе 0,5 г на вадзе як сродак, які ўзмацняе менструацыі.**

**ФАСОЛЯ. У лекавых мэтах ужываюцца створкі пладоў фасолі. Напар парэзаных створак — 30—40 г на 1 л вады — п'юць пры раматусе і як мачагонны пры вадзянцы, якая ўзнікла на глебе ныручных захворванняў.**

**КУКУРУЗА. Для лекавых мэт збіраюць у народзе пучкі слупкоў з рыльцамі, якія называюць іншы раз «кукурузным воласам». Іх лічаць мачагонным сродкам, што ператварае мачавыя камяні ў пясок, а таксама і жоўцевыя камяні. Вось адна з простых сумесяў пры захворванні мочапалавых органаў: кукурузны волас, створкі фасолі і лісце талакнянкі роўнымі часткамі змешваюць разам і 40 г гэтай сумесі кіпяцяць 15 мінут у 1 л вады. Увесь адвар працэджваюць і выпіваюць за дзень за шэсць разоў. Пры гэтым рэкамендуецца бяссолевая малочная дыета, цёплыя ванны і грэлкі на вобласць мачавога пузыра ці нырак.**

**РАСЛІНЫ, ЯКІЯ ЎЖЫВАЮЦЦА Ў НАРОДЗЕ ПРЫ ХВАРОБАХ ДЫХАЛЬНЫХ ШЛЯХОЎ.**

**ВОЛЬХА. Пры прастудзе, калі ў хворага хочуць выклікаць пот, робяць наступнае: кладуць яго на слой свежага альховага лісця і накрываюць тоўстым слоем такога ж лісця, а зверху — коўдрай. У хуткім часе чалавек пачынае пацець і вельмі моцна.**

**Такі метад лічыцца карысным для хворых са слабым сэрцам і ўжываецца, напрыклад, пры вострым раматусе, артрытах, падагры, сустаўным рэўматычным болі і інш.**

## АДРАДЖЭННЕ: ПРЭМ'ЕРЫ, ВЕЧАРЫНЫ, ІМПРЭЗЫ

### У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА (МЕНСК)

Прэм'ера фільма «Купалле на Радагошчы» — 17 снежня. Пачатак у 19 гадзін.

Вечарына памяці. Да 90-годдзя з дня нараджэння Міхася Зарэцкага. 20 снежня. Пачатак у 19 гадзін. За даведкамі звяртацца да адміністрацыі: тэл. 36-09-09 і 36-04-91.

Запрашаем усіх арганізатараў культурных беларускамоўных імпрэзаў, як у Менску, так і ў іншых месцах, папярэдне паведамляць нам свае планы дзеля абвесткі ў «Нашым слове».

## *Слоўцы, якія паслужаць*

(Пачатак г. №№ 10, 1990; 4, 23, 26, 38, 1991).

Шафёр:

— Жонка дзяўбе: «Парабі яшчэ з годзік-два, не ляці на пенсію. Не такая ўжо ў цябе і ўвярэдная работа...» А гэта не работа, а хваработа, як мая ўнучка кажа... Дзень цяпер з камарову дзюбку, не паспееш азірнуцца, як і ноч апранае. А калі яшчэ і слякаць, туман, шыбы ў машыне пацеюць — як сляпы крот робішся. Нервы — як струны напятыя, пульс 120, ціск 200... А пакуль даставіш кожнага на печ! Аднаму заяўніку на прыроду заманулася... На табе прыроду, вывез за горад. А ён сусліць губамі, плямкае, хр-р-р, хр-р-р. Катурхаў, катурхаў, а ён спіць і не шманае. Так і не дабудзіўся, прывёз назад на тое месца, дзе браў.

* * *

— Як пажываеш?

— Кідаюся патрохі.

— Э-э, а я думаў, ты яшчэ хадок-пабягайчык. Ажно і ў цябе лоб на патыліцу палез.

— На люстэрка, на сябе палядзі. Адзін нос астаўся, грыб ты сушаны. Як малаком абліўся...

* * *

— Во разагналася галатва, раскаталі губы. А тут адны капыты ў вітрыне.

— Я ж табе казаў — нашто нам гэтая турбацыя з гатоўляй? Дзе ты сталуешся? Зайшлі б у якую харчэўню і набягу, устаячку.

— Я ж цябе хацеў па-добраму ўчаставаць. Магу экзамен на повара здаваць.

* * *

— Паглянь, як месік затупіўся... Не павесіш ужо восілкаю вядзерца на ражок — упадзе.

— Другая квадра канчаецца. А да поўніка яшчэ столькі.

* * *

— Фу, якая несмач, атрута. Калом стаіць у горле.

— Дык гэта ж твая жонка нашывала, нагатавала!

— А-а... ведаеце, нічога, нічога. Пасаліўшы, забяліўшы, можна есці.

* * *

Дыялог:

— Пражыла я са сваім таптуном, як на свінні праехала. Чым такі скорам, дык лепш ужо нішчымніца.

— Што ты жупіш такое? Адной, без мужыка жыць? Не-неме... Хай будзе мужык як лапаць, абы мне за ім не плакаць. Сякітакі дуралей, але ў хаце весялей. Хоць чапліна, але ж за ім дровы і лучына! Лепш саламяны муж, чым залатыя дзеткі.

— Хоць пад лавачкаю сядзець, абы на прыгожага глядзець?! Схамяніся, Параска, не плявузгай... Язык ляшчыць, як калаўрот трашчыць.

* * *

— Яці... лігенты!... Не гавораць па-беларуску, а раз-маў-ляюць... З раздзяленнем гука ДЖ, ДЗ на два, з рускай цвёрдасцю «снег», «смех», калькіруючы бязбожна — «вялікае дзякуй», «прабачайце мяне», «загадчык аддзелам». Жывой народнай мовы не ведаюць і не імкнуцца ведаць, а лезуць, як жабы на купіну, хваляцца, што «дасканаляць» мову. Валакуць і хлуд, і смецце — «затэлефанаваць», «аповяд», «расповяд», «паліць» (у сэнсе — курыць) — і безліч іншых паланізмаў... Калі лянуюцца ў беларускія слоўнікі глядзець, абшарваць кішэні народнай памяці, то хоць бы ў польскія заглядвалі... А журналістка, вядучая, у заключэнне: «Паважаныя радыя слухачы! Вы слухалі сустрэчу за круглым сталом...» Радыя... А хто ж будзе радавацца, калі такое пачуеш?

* * *

— Дай, Божа, пагоду па году!

— Ага, на пагодзе стала, дзякуй Богу. Ты пасеяла ўжо буракі?

— Валовікі толькі. А рэпкі не ўсе, на два радкі не хапіла насення. Прыйшла да цябе пазычальніцаю: мо, хоць жменька сталовых асталася ў цябе?

— Засталася, але нецікавыя сёлъта, бледныя, у палосачкі. Гэта ж блізка ад кармавых высадкі пасадзіла, дык скінуліся. Аграном кажа — пераапыліліся.

* * *

Трыпутнік, прыпутнік, прыдарожнік і... трэпатнік. Назвы-сінонімы адной расліны. У апошняй нешта ад «трэп», «трапаць». Расце, значыць, там, дзе часта ходзяць, топчуць, мнуць, труць, трэплюць расліну нагамі. Не скажаш, што ў народа не чуйнае вуха і кепскі густ на слова!

* * *

— Дзе ты насек такое тэнчы? Галава твая... На кроквы трэба жэрдкі во такой тэўсці — як трыма далонямі абхапіць.

Павел МІСЬКО.

**«Дай, Божа, пагоду па году!»**

# Крыжаванка-пераклад




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Жгучая крапива. 4. Лесник. 6. Издалека. 7. Отечество. 9. Спрос. 10. Сарай (для телег). 12. Икона. 14. Вопль. 15. Ягнёнок. 16. Искренний. 17. Взрослый. 21. Рассуждение. 23. Клянчить. 26. Ткачиха. 28. Обозреватель. 29. Наковальня.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Жилище. 2. В длину. 3. Отчаяние. 4. Слой. 5. Крошка. 6 Заимствование. 8. Ограбленные. 9. Птенец. 10. Глазомер. 11. Сжатое поле, на котором рос ячмень. 13. Забвение. 18. Керосин. 19. Опадание. 20. Сучья. 22. Шарф. 24. Целина (снежная). 25. Лавка, магазин. 27. Верхом.

Падрыхтавала Людміла ШНІП.



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.

Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». Наклад 5.058 паасобнікі. Зак. 2471. Індэкс 74975.